# НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

# ЯШЧЭ АДНА ВЯСНА

Выбраныя вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1996

ББК 84(4Беи)6
А85
УДК 882.6-1

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1994 ГОДЗЕ

*Укладанне і прадмова*
*А. І. Сямёнавай*

*Фота А. В. Клешчука*

Кніга выдадзена з дапамогаю
Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку

А 4820600000—011 120-95
М 302(03)—96
ISBN 985-02-0086-3

# Лёс — і над лёсам

Якая постаць... Якая значная знешнасць... Характар... І тое, што маюць на ўвазе, гаворачы — парода. Размова нават не пра генеалагічнае дрэва (хаця яно таксама і слыннае, і старадаўняе), а пра тое, што даецца Натурай і адточваецца працай душы.

...Наталля Арсеннева на партрэце работы Пётры Мірановіча — гэта пра яе ідзе гаворка. Жанчына ўжо не першай, вясновай пары, але ва ўзросце, калі праяўлена асоба. У Наталлі Арсенневай — выяўленая, вызначаная ў паэзіі. Вось тое, пра што Максім Танк пісаў: «...песня твая зацвіла зачараванай казкаю...» у вершы «Нашы шляхі», прысвечаным Наталлі Арсенневай. А пачынаўся верш словамі, якія прароча спраўдзіліся ў жыцці: «Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі...»

Дарогі, разышліся, мабыць, куды больш далёка, як маглі сабе ўявіць Максім Танк і Наталля Арсеннева, упершыню сустрэўшыся ў 1937 годзе ў Вільні, на пасяджэнні Беларускага Навуковага Таварыства, наладжанага ў інжынера Трэпкі. Народны паэт Беларусі, рэдактар часопіса «Полымя», старшыня Саюза пісьменнікаў, літаратар, якога ведае кожны школьнік. І — паэтка эміграцыі, нават прозвішча якой некалькі дзесяткаў год было пад забаронай.

У кожнага з іх свой лёс, свая драма душы. У кожнага — творчасць. Перадусім менавіта творчасцю цікавыя нам яны. Творчасцю, у нечым непасрэдна звязанай з лёсам кожнага, канкрэтнымі абставінамі жыцця, а ў нечым адстароненай, адчужанай, падвышанай духоўным вопытам, сягненнямі вышэйшага парадку.

Што датычыць абставін жыцця Наталлі Арсенневай — па бацьку яна таго роду Арсенневых, што даў М. Ю. Лермантава,— дык гэтыя акалічнасці яшчэ будуць вывучацца даследчыкамі. Складаныя абставіны складанага жыцця. А ці ж былі простыя пуцявіны ў тых, хто прыйшоў на свет на пачатку XX стагоддзя і каму наканавана было мець радзімай краіну, якую кроілі, перайначвалі ў межах, дзе адзін жорсткі рэжым змяняўся другім?

Антон Адамовіч ва ўступным артыкуле да выніковай кнігі Наталлі Арсенневай «Між берагамі» ўвесь час падкрэслівае «натуралізацыю» паэткі ў беларушчыне, маючы на ўвазе яе расейскія карані. Хто яго ведае, ці мае ён рацыю,— чамусьці ў беларусаў, што займелі вядомасць як расейскія ці польскія творцы, ніхто не спяшаецца вызначыць іх «некарэннасць». І, мабыць, была найвышэйшая воля ў тым, каб беларус Максім Багдановіч, што вырас і вучыўся ў Расіі, дапаў сэрцам і розумам да зямлі бацькоў і ёй, яе мове аддаў свой талент. І было найвялікшае казанне ў тым, што патомная Арсеннева, пабачыўшы свет у Баку, не толькі радзімай, але і месцам нараджэння лічыла Вільню, «дзе... фактычна расла й гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцця».

...Лёс Наталлі Арсенневай не быў сквапны на адзнакі абранасці. Ад самага нараджэння — вэлюм паходжання, што лучыў яе з адным

з вяршынна таленавітых паэтаў, з адной з самых трагічных жыццёвых пуцявін. У Беларускай гімназіі, у Вільні, «у кузні беларускіх дзеячаў», вершы яе прачытаў і ўхваліў сам Максім Гарэцкі, што на тую пару выкладаў у гэтай навучальнай установе. (Сярод настаўнікаў былі і Антон Луцкевіч, і Браніслаў Тарашкевіч, і Аркадзь Смоліч — можна ўявіць узровень шкалення: цвет і краса беларускага Адраджэння.) У 30-я гады свае вершы Наталлі Арсенневай прысвячаюць Максім Танк (як ужо згадвалася) і Міхась Машара. «Дзіўна песні Твае расцвітаюць сузор'ямі», «Твая душа сатканая з вясёлак і зарніц» — мала хто нават з самых шчасных абраннiц паэтычнай музы можа пахваліцца такімі зваротамі. І сёння, пасля дзесяцігоддзяў забыцця і забароны, асоба Наталлі Арсенневай набывае пэўную афарбоўку, нават німб: выкраслілі, раскрыжавалі знявагай маўчання, адпрэчылі ад Радзімы. Жыве недзе там, за акіянам, таямнічая, нязнаная...

Тым не менш жыццёвы яе шлях быў сатканы не з вясёлак.

Нарадзілася Наталля Арсеннева 20 верасня 1903 года ў сям'і служачага, як пазначала сама паэтка — «расейскага ўрадаўца». У сям'і Арсенневых было чацвёра дзяцей — тры сястры і адзін брат. Маці, былая настаўніца, строгая і патрабавальная жанчына, сама займалася падрыхтоўкай дзяцей у сярэднюю школу. У дзесяць год Наталля Арсеннева на «выдатна» здала ўступныя экзамены і была залічана адразу ў другі клас Віленскай Марыінскай гімназіі. Вучылася тут два гады. А далей засвойваць навуку давялося ў Яраслаўлі, куды эвакуіравалі сям'ю Арсенневых, калі фронт, пад час першай сусветнай вайны, наблізіўся да самай Вільні. У Яраслаўлі давялося добра хлябнуць гора — вайна, рэвалюцыя, разруха, голад... Цвёрда вырашылі вяртацца дахаты, у родную Вільню, і больш як год дабіраліся на радзіму. Усе дзеці тым часам перахварэлі на гішпанку — пакуль трапілі на Беларусь, у сям'і Арсенневых засталося трое дзяцей: сястра Наталлі Галіна памерла.

Пасля пяці год бежанства ў Вільні ўсё распачыналі наноў. Кватэру Арсенневых занялі чужыя людзі, усё дабро, што заставалася ў хаце, парасцягалі. З 16-ці год Наталлі Арсенневай давялося дапамагаць сям'і, даючы ўрокі французскае і нямецкае моў. Але, мусіць заўсёды падкрэсліваць паэтка, «з прыгнечання, а часта й гаркое роспачы ратавала... Першая беларуская гімназія», бо «людзі, што вучылі... у Вільні, у 1919-м, 1920-м, 1921-м, 1922-м ды пазнейшых гадах, навучылі на ўсё жыццё й мяне, і шмат каго з маіх аднагодкаў горача палюбіць Беларусь, стацца ейнымі пільнымі служкамі назаўсёды».

Адтуль — гэты творчы, жыццёвы, грамадзянскі гарт. Адтуль — нязломная воля. Адтуль — быццйны грунт, апірышча ва ўсе часы.

Скончыла ж Віленскую гімназію Наталля Арсеннева ў чэрвені 1921 года, атрымаўшы «матуру» — атэстат аб набыцці сярэдняй адукацыі. Адразу распачала працу ў адной з беларускіх віленскіх школаў, паступіла ў Віленскі універсітэт. Адначасова друкавалася ў розных тагачасных заходнебеларускіх часопісах і газетах.

Праз год Наталля Арсеннева пабрала шлюб з Францішкам Кушалем і з'ехала з Вільні.

...Новы клопат. Новыя пачуцці. Новыя ўяўленні. Па словах самой паэткі, «перажыванні, найглыбейшыя... і найшчаслівейшыя — пачуцці і перажыванні маці». Маці двух сыноў — Яраслава і Уладзіміра.

Гэта разам з імі, двума сынамі, забрала Наталлю Арсенневу ў 1940 годзе НКУС. Пасля пачатку другой сусветнай вайны, калі Заходняя Беларусь, паводле пакта Молатава—Рыбентропа, была далучана да СССР, да Усходняй Беларусі і калі Вільню пераўтварылі ў Вільнюс, Наталля Арсеннева, не маючы магчымасці зарабіць на хлеб у перайначаным, цяпер ужо толькі «летувіскім» горадзе, з'ехала да сваякоў у Вілейку, дзе працавала ў мясцовай газеце. Муж яе тым часам быў у савецкім палоне. Паводле шматлікіх звестак, гэта і было прычынай яе ссылкі ў Казахстан.

Успаміны Наталлі Арсенневай «У казахстанскай ссылцы» — мабыць, не самыя жудасныя з тых, што нам давялося апошнім часам прачытаць, тым больш што ў іх, так бы мовіць, happy end: дзякуючы хадайніцтву Саюза пісьменнікаў БССР яна вярнулася на Радзіму ў траўні 1941 года. Але гэтыя ўспаміны — яшчэ адно сведчанне таго, як умее чалавек пагарджаць чалавекам, які ён бывае вынаходлівы на кпіны і здзек, на бяссэнсіцу. І асобныя людзі, і ўвогуле ўлады, і так званыя ўладныя структуры. Гісторыя пра многае можа засведчыць. Хаця, паводле статыстыкі і сцвярджэнняў даследчыкаў, XX стагоддзе ці не паставіла тут рэкорд, калі мець на ўвазе фашыстоўскія канцлагеры і карныя акцыі, ГУЛАГ і іншыя «фантазіі» савецкіх органаў бяспекі.

Дык вось, успаміны Арсенневай, змешчаныя, дарэчы, у зборніку «З гісторыяй на Вы» (вып. трэці), паводле публікацыі ў газеце «Бацькаўшчына» (Мюнхен, 1952, № 94—96),— дадаюць важныя старонкі ў гэты сумны летапіс. І шмат у чым прасвятляюць яе жыццёвыя стасункі. Раптоўная, без суда і следства, без прад'яўлення абвінаваўчага заключэння, высылка. Дарога ў таварняку са шчыльна зачыненымі дзвярыма. Холад, бруд, голад. Тры першыя дні — ані скарынкі. Усе высланыя (як сведчыць Арсеннева, 99%) — жанчыны і дзеці, уключаючы немаўлят двух тыдняў ад роду. Пасля 20 дзён пакут іх (далёка ўжо не ўсіх — шмат хто не вытрымаў, памёр) *выгрузілі* (выраз Арсенневай) на нейкай станцыі. Ні жытла, ні сродкаў для існавання: «...у каго няма грошай... той можа пабатрачыць у калгаснікаў». За посцілку і ручнікі — «кватэра», куточак у хаце, дзе можна было спаць на глінянай падлозе. За пшаніцу і хлеб яны мусяць «капаць гліну, мясіць яе ў ямах з сечкай, лазіць на стрэхі, мазаць іх глінай, рабіць «саман», цягаць ваду із студняў». Малако было ўжо найвялікшым далікатэсам. Сцюдзёна зімой, спякотна «распаленым казахстанскім летам», няўтульна ў чужым краі. Крыўдна і незразумела — за што?

Наталлі Арсенневай не давялося зазнаць усе кругі пекла. Але і круг першы даваў уяўленне пра астатнія. Мужу яе наканавана было

паспытаць гора больш. Калі перад вызваленнем паэтку выклікалі ў Маскву (дзеля чаго — яна так і не даўмелася, канкрэтна ж было прапанавана скасаваць шлюб з Францішкам Кушалем), дык тым часам ён быў там, на Лубянцы, за кратамі...

Ды і «вандроўка» ў Маскву была ой якая не салодкая. Вяртаючыся, ішла Арсеннева ад раённага цэнтра дадому пехатою праз стэп. Нават фізічна ўяўляеш сабе гэтыя 32 кіламетры за адзін дзень, па мокрым снезе, у набрынялых вільгаццю валёнках, са сцёртымі да крыві нагамі. Апошнія 5 кіламетраў ішла босая, вясновай снегавой хлюпатой.

Год пакут, год пакарання, аніякімі юрыдычнымі ці лагічнымі нават высновамі не абумоўлены. Год крыўды. За сябе, за сыноў, за мужа. За зламанае жыццё...

...Толькі каля трох год «за Саветамі». Вымушаны ад'езд з Вільні, горада-радзімы, цэнтра беларускай культуры, гістарычнага цэнтра беларускага друку, горада, дзе ў 20—30-я гады віравала літаратурнае жыццё, у якім яна прымала чынны ўдзел. Гвалтоўнае высяленне ў Казахстан, уладнае нахабства «брутальных энкавэдыстых», «няветлыя ваколіцы савецкага раю», дзе «шмат якія калгасы год у год галадалі». Нечаканае папярэджанне Кучара: «Ведаеце, не гаварэце так голасна па-беларуску — у нас гэта не прынята». Не прынята «ў сэрцы Беларусі, Менску»,— адзначыць для сябе Арсеннева. Не, не былі Саветы для Арсеневай увасабленнем Бацькаўшчыны. Нібыта і Беларусь — а ўсё не так, як павінна быць. Па-беларуску гаварыць непажадана, затое выслаць — можна. Арыштаваць польскага афіцэра, яе мужа,— звычайная рэч. Абвясціць калыску трох культур Вільню толькі летувіскім горадам — можна. Пазбавіць магчымасці працаваць — можна. Жыць у галечы — не забаронена. Не магла, мабыць, не заўважыць Наталля Арсеннева і адсутнасць у культурным цэнтры Савецкай Беларусі сваіх былых выкладчыкаў — Максіма Гарэцкага і Браніслава Тарашкевіча, што вольнай воляй памкнулі ў Саветы. Пэўна іх лёс на тую пару, мабыць, мала хто ведаў. Але знікненне многіх з літаратурных даляглядаў, масавыя арышты — гэта не было сакрэтам.

«За польскім часам» таксама не ўсё было гладка, аднак засценкаў Наталля Арсеннева (у адрозненне, скажам, ад Максіма Танка ці Піліпа Пестрака) не паспытала і ссылак таксама, жыла нармальным жыццём, належала да асяроддзя вайсковай верхавіны (муж служыў у Вайсковай радзе ў беларускім палку), пісала, друкавалася. І адмаўляцца ад мужа ёй ніхто не прапаноўваў. І ў ссылку ніхто не выпраўляў. Новая ж улада праз два з нечым гады ўспрымалася адназначна як нешта чужое, варожае.

Ёй не кінуліся ў вочы даброты новага часу: бясплатнае навучанне, бясплатныя бібліятэкі, бясплатная зямля, урэшце — прывідная ці не, але ўзаконеная і абвешчаная роўнасць усіх. Тое, што ацанілі Максім Танк, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік. Людзі, якіх не папракнеш у артадоксіі ці ў выслужванні перад уладамі: трымалі годнасць. І ў іх, і ў яе былі свае рацэі.

Пачатак вайны Наталля Арсеннева сустрэла на Беларусі. Немцы былі акупантамі. На думку Наталлі Арсенневай — таксама як і Саветы. Была і — ілюзія? недасведчанасць? — што «немцы ж ані не цікавіліся, якой мовай паняволеныя імі людзі гавораць, чытаюць, пішуць, нікога за гэта не каралі, і таму беларускія патрыёты адразу з гэтага скарысталі й узяліся за працу», таму «гэтыя жахлівыя, нялюдскія гады, што каштавалі нашай Бацькаўшчыне і ўсім, хто іх пераржыў, безліч ахвяраў, як гэта ні дзіўна, а прычыніліся ў вялікай меры да адраджэння беларускае нацыянальнае свядомасці, нішчанае і дужанае і на ўсходзе й на захадзе (і ў Польшчы, і ў СССР)». Гэтыя словы Наталлі Арсенневай падае Л. Пранчак (газ. «ЛіМ» ад 17 ліпеня 1992 г.). Але ж даследчыцкія працы апошняга часу — найперш, мабыць, Ю. Туронка, А. Літвіна, — досыць выразна, аналітычна выверана і дакументальна аргументавана не пацвярджаюць гэтай стыхійнай неагляднасці фашыстоўцаў. Палітыка вермахта ў Остляндзе, у прыватнасці стратэгія гаўляйтэра Кубэ, была досыць вывераная і дальнабачная. Гэта быў курс на выкарыстанне ў сваіх мэтах нацыянальных і нацыяналістычных настрояў: адкрыццё беларускіх школ, прагімназіяў (няпоўная сярэдняя адукацыя), інстытутаў, падтрымка нацыянальнага друку. Арыентацыя перш-наперш на заходнікаў — асоб кшталту Арсенневай, для якіх бальшавікі былі чужой, іншароднай з'явай.

Людзі атачэння Наталлі Арсенневай пад час вайны разлічвалі, безумоўна, і на перападзел мапы пасля другой сусветнай вайны. Таму, між іншым, зусім невыпадкова Другі Усебеларускі кангрэс праводзіўся менавіта ў 1944 годзе, калі ў небе Беларусі гулі савецкія самалёты і чуваць былі з Усходу савецкія гарматы. Але ўжо існаваў — рэальна — Другі фронт. Існавала антыгітлераўская кааліцыя. І там былі краіны зусім не бальшавіцкія, не камуністычныя: ЗША, Англія... А раптам — пашанцуе і з'явіцца самастойная Беларусь? На гэта разлічвалі К. Езавітаў, Ф. Кушаль, В. Мікула і інш.

Што ж датычыць палітыкі вермахта на Усходзе і канкрэтна на Беларусі, быў тут яшчэ адзін важны і казытлівы момант. Не толькі навучальныя, адукацыйныя беларускія ўстановы і органы друку ўсталяваліся пад час акупацыі. Былі ўтвораны Беларуская самаахова, Беларуская краёвая абарона (БКА), падкантрольныя нямецкаму кіраўніцтву. І муж Наталлі Арсенневай Францішак Кушаль узначальваў Беларускую краёвую абарону.

Якая роля, які чынш гэтага чалавека пад час вайны — гаворка асобая і сур'ёзная. Якая ў ягоным лёсе доля патрыятычнай самаахвярнасці, якая — трагічных памылак, якая, магчыма, канфармізму і нават калабарацыянізму — тое будуць высвятляць даследчыкі. Адно бясспрэчна — гэта драматычная і неадназначная постаць. Прафесійны вайсковец, кар'ера якога пачалася ў 1915 годзе ў расейскай арміі, старшыня Беларускай вайсковай камісіі (БВК) у 1919—1920-х гадах, афіцэр польскай арміі — у 20—30-я гады.

І з усяго, пра што толькі што вышэй вялася гаворка, нельга ставіць знак роўнасці паміж ім і, напрыклад, якімсьці французскім

2. Зак. 5254.

афіцэрам, для якога было цалкам адназначна: Францыя па адзін бок, Германія (бошы і фашыстоўцы) па другі. І стаць пад штандары Belle France, пад сцягі генерала дэ Голя было справай патрыёта, справай гонару афіцэра.

Тут, у выпадку з Кушалем, была мара пра незалежную Беларусь. Самастойную. Са сваімі атрыбутамі ўлады. І, безумоўна, сваёй арміяй. Таму — старшыня БВК. Таму — камандуючы БКА. Прыгадваюцца тут яшчэ гістарычныя паралелі. Польскі корпус Напалеона. Для ваяроў былога Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай (на тую пару былой) Банапарт быў зусім не той постаццю, што для расейцаў. Не заваёўнік, а герой, які вёў армію пад трыкалорам рэвалюцыі. Наконт Гітлера ілюзіі наўрад ці былі, аднак дзяржаўны прывід белага конніка на чырвоным полі, ён, мабыць, вабіў, прымушаў паверыць у нязбытнае.

Не збіраюся тут выносіць ні апраўдальны, ні абвінаваўчы вердыкт Францішку Кушалю. Мяне цікавяць матывы, псіхалагічныя прычыны ўчынкаў, тое, пра што, безумоўна, ведала Наталля Арсеннева. Уся ж канкрэтыка на тэатры ваенных дзеянняў — стасункі БКА і асабіста Кушаля з дывізіяй СС «Нібелунгі» і з яе сумна вядомым на Беларусі камандзірам Зіглінгам, вайсковы шлях мужа Наталлі Арсеннevай — гэта ўжо справа ваенных гісторыкаў. У нас гаворка пра Наталлю Арсенневу. Яна ў той час пісала вершы, рабіла пераклады. Наколькі мне вядома, ніякіх канкрэтных абвінаваўчых дакументаў, што кампраметавалі б яе, няма. І суддзя ёй — Усявышні.

А мы — чытаем яе вершы. Творчасць яе, незалежна ад асабістага лёсу Наталлі Арсенневай,— набытак Беларусі. Я не хачу згадваць пра тое, што ў сусветнай скарбніцы літаратуры, у яе нацыянальных скарбонках не выкрэсліваюць ні творы Кнута Гамсуна, адкрытага калабарацыяніста, ні створанае афіцыйным паэтам рэжыму Мусаліні Габрыэле д'Анунцыа. Гэта з'явы непараўнальныя. Як пазначыла сама Наталля Арсеннева ў згаданых адказах на пытанні Л. Пранчака: «Я не палітык, я паэт». Паэт, з творчасцю якой большасць з нас займела магчымасць пазнаёміцца зусім нядаўна. Выйшаў зборнік «Пад сінім небам» (факсімільнае выданне кніжкі 1927 года), у бібліятэках можна прачытаць яе кнігу «Між берагамі», якую адкрывае на франтыспісе рэпрадукцыя таго самага партрэта Пётры Мірановіча. З'явіліся першыя спробы накрэсліць літаратурны партрэт Наталлі Арсенневай. З іх асабліва вылучаецца праца Уладзіміра Калесніка. Ужо ў апошнія дні свайго жыцця, цяжкахворы, адзін з самых яркіх нашых крытыкаў лічыў сваім неад'емным абавязкам пазначыць месца паэткі ў літаратурным жыцці Заходняй Беларусі 30-х гадоў.

Неўзабаве чытач зможа ўзяць у рукі вось гэтае выданне: «Яшчэ адна вясна». З назвай, прынамсі, сімвалічнай. Прымавера, вяртанне паэтычнай вясны Наталлі Арсенневай, паэта вялікага таленту. З тых, што не праміnуць увагай вёснаў, восеняў, красавікоў, пралескаў, тумаnоў, росаў, зораў. Усё існае ў свеце Наталля Арсеннева адчувае як цуд тварэння, успрымаючы адначасова як заканамерную і як вы-

падковую радасць. Гэта той тып светаўспрымання, калі чалавечая, творчая ўвага канцэнтруецца на пэўных імгненнях, у перажываннях, што імкнуцца ўраўнаважыць лёс чалавека з лёсам Натуры, адчуваннем паўнаты і святочнасці быцця, спрабуюць перадаць нават у метрыцы, будове верша гармонію, злагаду навакольнага свету. І мы наноў спазнаем засвоеныя і душой, і розумам, і эстэтычнай памяццю прыкметы вясны, восені, зімы, лета, усю зарганізаваную сістэму сусвету.

Неба сіняе, сіняе, сіняе...
Ані межаў у ім, ані дна.
На зямлі прыгажуняй-княгіняю
пазірае мне ў вочы вясна.

Або:

Сыплюцца з клёнаў лісты,
сыплюцца ціха, маўкліва,
крыюць зямлю і кусты
пражаю жоўтай, шасцівай.

Сыплецца саду краса,
кроплі дажджу, як раса,
ззяюць сцюдзёнай палівай.

Кожнагодняя з'ява. Дзіва. І прадвызначанасць. І выказана тое ў традыцыях паэзіі, беларускай паэзіі, можа, асабліва. Будзе ў вершах Наталлі Арсенневай роздум, будуць клічнікі захаплення, будзе адбітак успрымання суб'ектыўнага. І будзе Наталля Арсеннева ўспрымаць існасць свету як святочную дадзенасць, як падарунак існавання — нават у самыя цяжкія хвіліны жыцця, калі «страшэнна пуста, сумна й безнадзейна». Нават у таварняку, што вёз Наталлю Арсенневу ў ссылку, у Казахстан, у напакаваным людзьмі вагоне, дзе праз шчыліну быў відаць толькі кавалачак неба, з'явіліся радкі: «Толькі вясною бывае неба такое сіняе, толькі вясною бываюць далі такія чыстыя...»

Мы не знойдзем у вершах Наталлі Арсенневай хронікі падзей, падпарадкаванасці аўтабіяграфічным калізіям. Прырода — з ёю ўвесь час вядзе бясконцую размову паэтка. Гэта яе храм, лякарня, палац цудаў. Наталля Арсеннева даўно зразумела гаючую злагаду вялікай чарадзейкі — Натуры — ва ўсіх жыццёвых абставінах. І яна не стане згадваць пра тыя варункі, будзе весці гаворку пра цуд выратавання:

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
калі хочацца плакаць, маліцца,—
ты ідзі вузкай сцежкай у лес,
там так лёгка на крыўды забыцца!

А ўвогуле Наталля Арсеннева — асоба моцная, яна ўмее не падначальвацца плыні жыцця. І духоўная рэальнасць яе паэзіі, вызначальныя кантрапункты яе, танальныя рэгістры, што мецяць творчасць паэткі, далёка не заўсёды супадаюць з падзеямі. Мы не знойдзем канкрэтнага верша з нагоды найгоршай трагедыі — у 43-м годзе ад

выбуху міны ў Мінскім гарадскім тэатры загінуў яе старэйшы сын. Можа, таму, што, па яе ўласных словах, «боль гэты жыве... недзе глыбака і сяння». Тым, 43-м годам, яна пазначыць: «Так, жыццю дагадзіць немагчыма... Лёс — пражэрлівы, прагны стары...» Але тут жа адпрэчыць: «...трэба, зубы сціснуўшы, глянуць проста ў злосныя вочы жыццю». І дадасць: «Нашу долю мы ймклівей за ветры здагонім, ■ для гэтага варта змагацца і жыць!»

Але вось на пачатку 20-х гадоў, калі лёс вызначае шчаслівыя, здаецца, падзеі, у паэткі з'яўляюцца вершы ў танальнасці яе геннага продка: «Што сумна шэпчуць мне тыя ночы?»; «Шчасце — як сонца: маленькая хмарка пройдзе па небе ціхім сярод дня — сонца ўжо свеціць так жутла, няярка, момант — і сонца няма»; «Шчасце — як светлыя, ясныя мары: рэзкае слова, заўвага адна,— і дагараюць яны ў пажары, момант — і мараў няма». Ёсць нават такое: «На матыў хаўтурнага марша». Перажываючы нейкую асабістую драму, Наталля Арсеннева ніколі не падае канкрэтных знакаў на яе ў вершах. Мы можам толькі здагадвацца, меркаваць. Нават твор, адрасаваны Францішку Кушалю, не нясе ў сабе ніякіх адзнак падзей, нечага пэўнага. Не, Наталля Арсеннева толькі запросіць яго ў свой храм — у лес. Верш так і названы — «У лесе». І ніякіх інтэр'ераў, экстэр'ераў, рэчаў: «хлыстиков», «перчаток», «тюльпанов ■ петлице». Маўчанне. Бяслоўная мова прыроды.

Лес вітаў нас нячутнымі словамі,
нам смяялася неба празрыстае,
а над намі, ўгары над дуброваю,
хмаркі таялі лёгкія, чыстыя...

Няма таго аўтабіяграфізму, што ёсць, скажам, у расейскай паэзіі, у паэтак, блізкіх Наталлі Арсеннавай па часе, па фактах біяграфіі,— у Марыны Цвятаевай і Анны Ахматавай.

Свой лірычны водгук на жыццё паэтка і ў гэтыя гады, і пазней імкнулася пераводзіць у той свядомасны «рэгістр», дзе быў бы тайнапіс сэнсу, дзе на ўсе падзеі можна было б паглядзець з пункту погляду сусветнага, агульнага парадку, паглядзець не проста на рэчы, учынкі, а на існае іх напаўненне, чытаючы Кнігу Прыроды, Кнігу Быцця. Тое самае ажыццяўленне існавання, што падначалена мудраму наканаванню нябёс. Але і канкрэтны боль Наталля Арсеннева таксама ўводзіць у маральнае поле вакол сябе і праецыруе нейкія лініі на працяг гістарычны і агульначалавечы. Яна разважае пра зло ўвогуле, пра марнасць зямнога:

Гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрцы ад свету няветлага, хмурнага
ў свет неспазнаны, таёмны вядуць.
Гукі трымцяць, наплываюць, зліваюцца,
плачуць, растуць, ад зямлі адрываюцца.
З імі — і сэрца дрыжыць:
досі ўжо, досі ўжо жыць!

Паэтка прыглядаецца да Быцця ў перспектыве гістарычнай, з пазіцый агульначалавечага сэнсу і «здравого смысла», раздумвае над ходам жыцця, поступам гісторыі. Чалавецтва прайшло нялёгкі шлях, і горкі вопыт яго чамусьці аніяк не паўплываў на ўчынкі асобных людзей і волю народаў. «Мала іх пошасці, войны з пажарамі білі, аж слёзы плылі, як рака?», «Досі ўсцяж шчасце шукаць па аселіцах, шчасце людское, як казкі,— мана»...

Безумоўна, Наталля Арсеннева расчаруе тых даследчыкаў, што ўмеюць і любяць скрупулёзна вывучаць абставіны жыцця творцы, лічачы, што грунт кожнаму вершу — пэўнае жыццёвае здарэнне. Вось адбылося тое — верш, спаткаўся з тымі — вершы. Тут ёсць рацыя, але паэт — не летапісец.

Наталлі Арсенневай увогуле ўласцівая пазіцыя адстароненага прыназірання, найбольш выяўленая ў творчасці 20—30-х гадоў. Прынамсі, якраз тады яна вызнае прынцып: над жыццём.

Я б хацела гарэць і змагацца, як вы,
разам з вамі каваць так чаканае ранне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Наталля Арсеннева прынцыпова вядзе гаворку нібыта сама з сабой, наўмысна пагарджае «зямным» вопытам. Яна не хоча «эксплуатаваць» свае жыццёвыя радасці і нягоды.

Я —
 не жыву вясной...
. . . . . . . . . . . . . .
Я —
 й летам не жыву...
А ўвосені узноў —
заміж мяне асіны
чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане,
і плача дробны дождж так нудна, несупынна,
па сонцы і вясне,
але...
 заміж мяне.

Іх многа, гэтых вершаў з падкрэслена тужлівай экзістэнцыяй і відавочным праграмаваннем свайго адстароненага быцця. То было творчай і жыццёвай пазіцыяй, але не было зломам душы.

Наталлі Арсенневай добра ў сваёй адстароненасці, у сваіх эзатэрычных вышынях. Яна не будзе разглядваць (паўторым зноў) дэталі: якія ж дэталі з вышыні! Ёй важна бачыць агульную «гармонию начал» (М. Забалоцкі), хараство не толькі пэўнага ландшафту, а зямлі ўвогуле, адвечнага ладу Натуры. І паэтка будзе збіраць сілы душы, яе моц, каб здолець успрыняць гэтае адвечнае хараство. А можа, ёй гэта наканавана, і яна самаахоўна падтрымлівае той душэўны і духоўны лад, якому адзіна патрэбна і неабходна высокае сугучча ўспрымання існасці, не сапсаванае і не здробненае мітуснёй і драбязой жыцця. Яна — і Натура. Натура ў шматаблічнасці і цэласнасці, у

праявах, найбольш прывабных для паэткі. Вясна. Восень. Вечар. Ноч.

Лёгка-замглёныя восені далі
ў ясна-зялёным блакіце стаялі.
Гаснучы, сыпаўся дзень пазалотай
з неба на тонкіх бяроз пераплёты.
Дзень дапаліўся, і цемра нядбала
ў шэрасці хварбы жывыя схавала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ці разумееш у плачы тым шэрым,
што яшчэ нехта у вечар туманны
тужыць усупал з табой па нязнаным?

Нязнанае... Адыход дня, змярканне, так любае Арсенневай, такі прыдатны для думак час. Звычаёвае бліжэй да скону дня пераўтвараецца, прырода адкрывае свой патаемны сэнс, выяўляе сябе ў душы і відавочным вобразе мастацтва:

Растуць у лесе вершы ўвечары...
Разлёгся лес імхамі, плесняю.
Іду сцяжынкай непрыкмечанай
і цешу сэрца новай песняю.
Нялёгка йсці праз нетры слоўныя...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А ўсё ж
люблю тварыць я ўвечары!

Гэта тою парой, калі «супраць волі... сэрца... гарыць» і турботныя «сюжэты» дня відавочна сыходзяць.

Толькі ўночы жыву я душою узлётнай,
аб якой гэтак часта не помню зусім...

Адстароненае назіранне — гэта дамінанта актыўнай духоўнай свядомасці Наталлі Арсенневай, што выключае з паэтычнага вопыту друз турбот матэрыяльнага існавання, варункаў сацыяльных і палітычных. Гэтае «заміж мяне», калі меркаваць па прысвечаных ёй вершах, прымалі і разумелі Максім Танк і Міхась Машара.

Паэзія Наталлі Арсенневай вабіць абаяльнасцю інтанацыі, свежасцю рыфмаў, складаным і шматслойным узорам рамантычных матываў, фальклорных рэмінісцэнцый, выслоўленым уяўленнем паэзіі як канцэнтраванага быцця — уяўленнем, што мае апірышчам Хараство, Ідэал, Абсалют.

Жыццё жорстка ўварвалася ў яе вежу, яе «кастэлю». «В буднях великих строек» такія настроі, мякка кажучы, не заахвочваліся. І біяграфія, анкетныя звесткі відавочна «цягнулі» на тую самую ссылку ў Казахстан. Але пасля яе мы бачым, як у нечым застаюцца ранейшымі сэнс і танальнасць паэзіі Наталлі Арсенневай: тыя ж вясновыя і восеньскія настроі, той жа роздум, ды з'яўляюцца — і, безумоўна, пераважаюць! — новыя ноты, акорды, сугуччы.

Мінорнае, элегічна-сузіральнае адчуванне Радзімы робіцца па-

чуццём выбуховым, актыўным, абвострана-чуйным. Год у далёкім Казахстане, у адчаі безвыходнасці — гэта не тое, што гады расстання з Радзімай пад час жыцця ў Польшчы: там былі светлая туга і цвёрдая ўпэўненасць у сустрэчы. Пасля ссылкі Радзіма выдавала не інакш як зямля абетаваная, вернутая, знойдзеная наноў. Падзеі 1939, 1940, 1941 гадоў відавочна даюць штуршок паэзіі Наталлі Арсенневай — яна ў пэўнай ступені адыходзіць ад сфер адстароненасці да падзейнай канкрэтыкі гісторыі, да нейкіх іншых адзнак ісціны, да матэрыялізаванай у словах лозунгавасці, да іншай танальнасці, іншых метрычных спосабаў, у нечым — іншай мастацкай логікі. Недзе ўзбуйняючы, канцэнтруючы, а недзе сведама расслойваючы «галоўны сэнс», яна не паглыбляецца ў сутнасць існасці, і дадае сэнсу нейкія нюансы, прапрацоўкі тэмы, сведчанні часам ледзь не пратакольныя. Высвечваюцца новыя грані лірычнага «я», што ў нечым саступаюць вышыннай выснаванасці ранейшага, але ўражваюць напалам эмоцый, імклівасцю памкненняў, грунтоўнасцю верагоднага. У самотнай, развażлівай паэткі выяўляюцца раптам байцоўскі гарт, нейкая фаталісцкая вера ў будучыню Беларусі. Тое, чаго і зблізу не было ў кнізе «Пад сінім небам» і ў падрыхтаваным да друку зборніку «Жоўтая восень» (вершы з яго ўпершыню былі надрукаваныя ў зборніку «Між берагамі»), раптам прарываецца ў выданні «Сягоння». Гісторыка-патрыятычныя вершы: «Песня каліноўцаў», верш да 25-х угодкаў склікання Усебеларускага кангрэса... Вершы ўзнёсла-патрыятычныя, з відавочна аптымістычнай танальнасцю: «А ўсё ж будзем жыць», «Жыве Беларусь», «Хай грыміць», «У дажынкі» і г. д. Менавіта ў 1942 годзе напісаны рэлігійна-патрыятычны гімн, што стаўся адной з самых адметных праяў у творчасці Арсенневай:

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменне Свае хвалы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

Ні ў адным з вершаў перыяду вайны няма гаворкі непасрэдна пра акупантаў: ані добрага, ані кепскага слова. Вайну Наталля Арсеннева, калі меркаваць па вершах, успрымае як няшчасце наогул. Па-жаноцку. Па-чалавечы. «Колькі ж, колькі віхор вайны сэрцаў людскіх разбіў, пакалечыў». Невясёла раздумвае яна пра долю сваіх суайчыннікаў — навала за навалай, вайна за вайной. «Зжыў свой век дзядуля, як усім жылося,— за цара, за веру біўся-ваяваў... перажыў Кастрычнік, голад і развал. Прычакаў калгасаў...» Ёсць у гэтым вершы «Стары Сымон» і такі паварот: «Ды дасі ж ты веры, каб штыхом ці куляй хтось прынесці шчасце або волю мог? Дось крыві старому, і зямля-матуля нё штыхоў чакае...» Дось крыві... Але на свеце пад час

напісання верша ідзе сорак першы год... На што спадзяецца паэтка? А яна ж сцвярджае: «Хай кон сёння ў вочы нам хлусіць, хай сцёбае, нішчыць угрунь,— а будзем з крыніц Беларусі мы жменяю чэрпаць зару!» На што ж спадзяецца? На незнішчальную жыццяздольнасць зямлі і людзей? На лёс? На шчаслівы выпадак? Ці гэта салодкі падман? Спапялёны Мінск... Зруйнаваная Беларусь... Але — што можна сцвярджаць бясспрэчна — гэта патрыятычная паэзія. Хаця раздумная рэфлексія таксама выдае сябе ў вершах, тая ж пазіцыя — «над жыццём». І — ваганні... «Але пра што пісаць? Прарокам быць па часе? Нізаць каралі рос, вянок асенні віць?»; «Пісаць аб салаўёх, аб снежнай белі вішняў? Замоўклі салаўі пад медны рык гармат...» Паэтка відавочна пакутуе, страціўшы тую раўнавагу светаадчування, якая давала звычайна апірышча душы, калі нават туга ўсё ж мела грунт у зямным суладдзі, калі паэтка, адкаснуўшыся ад турботлівага долу, магла ўзвысіцца над эмпірыкай асабістага існавання, адчуць неабдымнасць прасторы Сусвету, спазнаць сябе равесніцай вечнасці. Тут рэчаіснасць такой магчымасці не пакідала. Аднак Наталля Арсеннева тым не менш шукае ратунку ў тым, што ёй дадзена Вышэйшымі сіламі: «Мне лёс даў, можа, болей, як каму...» І паэтка трымаецца за Слова як за асноўную сваю сілу, адзіны паратунак: «Не, паэт не матыль у вагні... Паэт жа — асілак!»; «З чаду, з шэрага дыму руін, з віску куляў, гарматных грымотаў ён, падумаўшы, выплавіць гімн гэткі ж жудасны, гэткі ж смяротны...» І — усё ж сумніва не пакідае паэтку — дзе яна, гармонія свету, дзе раўнавага сіл душы і стыхій свету, у чым карысць самапазнання? «Я ж пішу... Навошта я пішу? Для каго? Па шчырасці — не знаю. Бо ж не вершы ў свеце узнімаюць шум і не рыфмы шум той узнімаюць». Дзе ён, той невымерны, нечуваны гімн? Дзе асілак, што выратуе родны край і чалавецтва?

Так, не паэты змяняюць мапы зямлі, не яны вызначаюць лёс свайго і чужога жыцця, але душа і сэнс жыцця, гармонія светапарадку, уменне пераадолець немасць рэчаіснасці, правесці жывую душу па лабірынтах трывог і спадзяванняў — тое, што падуладна паэтам.

Словы — ветры на крылах птушыных,
словы — зоры са шляху сусветаў,
словы — пэрлы з нязнаных глыбіняў...

Радзіма, паэзія, прырода — не проста асноўная тэматыка творчасці Наталлі Арсенневай. Гэта тое, чым яна жыве. Хаця былі часы, што, як пазначае сама паэтка, «пісанню вершаў не спрыялі». У чэрвені 1944 года яна з сынам пакідае Беларусь. Берлін, Амберг (Баварыя), лагер для перамешчаных асобаў. Урэшце, з 1950 года — ЗША, дзе ёй напачатку давялося пакаваць гуркі на кансервавым заводзе, мужу — быць ліфцёрам, а сыну паліраваць сталы на мэблевай фабрыцы.

У вершах таго часу Наталля Арсеннева не хавае свайго болю і роспачы, наадварот, яна ўвесь час хоча іх нібыта выкрычаць, не, не тое слова — прагне абвясціць усім, што ёсць такая краіна — Бела-

русь, і гэта яе Радзіма, і яна яе любіць і будзе любіць да скону: верна, горача, адчайна... З надзеяй і верай — у шчаслівы лёс Радзімы.

О, Беларусь,
о, Беларусь мая!
Імя Тваё — такі пякучы сымбаль
болю!

І пра што б ні распавяла гаворку Наталля Арсеннева, Беларусь так ці інакш прысутнічае: «Тут гэткае завуць — зіма! У нас такой зіме й назову не прыдумаць!»; «Не плачце... Не таму, што слёз шкада. Ці шкадаваў іх хто калі дзеля краіны?..»; «Мы вернемся дамоў! З адкрытай галавой і з сонцам у душы...»; «І сняцца мне нашыя нівы і роднага неба дыван...»

Наталля Арсеннева не губляе надзеі і жыццёвага імпэту:

Дзіўлюся я сама,
ці ёсць яшчэ крыніца,
з якое я не чэрпала вады?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ды дзень міне, і зноў імкну я ў золь і восень
шукаць крыніц, з якіх вады я не піла.

Часам нават дзіву даешся — які стаіцызм! «Я не тужу сягоння па краіне. Сягоння Бацькаўшчына й мы — адно»; «Хоць мы лісты, што восеньскі віхор, разгойдаўшы, мяце па далячынях сініх,— карэнні нашыя ўпіліся у падзол радзімай глебы, і таму — не гінем». І гэта нягледзячы на выпрабаванні штодзённасці: у эміграцыі ў Арсенневай упершыню з'яўляецца канкрэтыка дня: «жудкі гон трансмісіяў і кол»; «Пайду я працаваць»; «Праробленае ўсё»...

Праз усе жыццёвыя недарэчнасці і згрызоты Наталля Арсеннева захавала тое, без чаго яе нельга ўявіць як паэта,— захопленасць навакольным светам. Зноў восень, а вось цвіце магнолія, і вясна, аказваецца, чуецца нават сярод гарадскіх амерыканскіх муроў. Між іншым, цікава, што яна, чалавек горада, і на Радзіме, і на чужыне, успрымае як першароднае, галоўнае, блізкае, існае — зямлю, «першую прыроду» (паводле Гегеля), усё, што цвіце, расце, мае корань. Зрэдзьчасу з'яўляецца ў яе і горад:

Места мярэсціцца ўнізе, далёка,
вежы касцёлаў у неба глядзяць,
цэркваў блішчаць залатыя галовы,
цёмнымі плямамі дрэвы ляглі...

Але звычайна ёй даспадобы стары, гістарычны абрыс горада, яго традыцыйная, старасвецкая сутнасць. І ніяк не хоча яна паэтызаваць урбаністычны сучасны краявід і адзнакі, гукі, пахі, спосаб існавання сучаснага, стандартызаванага, геаметрызаванага да прымітыўнасці горада.

...бетонаў штодзённасць
і шэрасць панурая сцен...
. . . . . . . . . . . . . . . .

здзічэлая чырвань рэклам,
мы дыхаем горкай бэнзынай,
муроў абмінаем рады
ды ймкнём наўздагон і гадзінам
і днём, невядома куды,
бяжым...

Затое асалодна паэтка будзе зноў і зноў углядацца ў красу звычайнага дня: «Мне ж дзівам найбольш вецце, якое залоціць восень»; «Срэбным каўшом цішыню п'е за аселіцай месяц»; «Лісцё — віхор іржавых зор — над шахаўніцай вуліц кружыць». Яна чуйна прыслухоўваецца да рухаў сваёй душы: «А мо пайсці глядзець, як сонца сеці топіць над шэрым плёсам хмар, плысці з людзьмі ў туман? Навошта?»

Зазнаўшы імпэт да гістарычнае тэмы, ці, больш справядліва, гісторыка-патрыятычнай, паэтка і ў эміграцыі піша вершы з нагоды ўгодкаў Слуцкага паўстання, у гонар 25 Сакавіка... Складае вобразныя аповеды на біблейскія тэмы — «Радасць», «Каласы», «І была там вясна...». Асабліва ўвагу яе прыцягвае цуд Уваскрэсення... На гэты цуд яна спадзяецца, вяртаючыся думкай да Радзімы. «Мы дапаляліся, і часам мы зноў шугаем угару, змянялі выганы і яслі ў вадным памкненні: «Беларусь!», «О Новы Край, як, гулі спыніўшы, хваля нас да порту прыжане, будзь нам прытулкам цёплым і ўтульным, але не Бацькаўшчынай, не!» Часам гэтыя бясконцыя звароты да Радзімы, гэтыя заклінанні могуць нават падацца залішняй экзальтацыяй. Але — уявім сабе тугу, усяісную, доўгую... «Куды тугу мы дзенем?» — пытанне не толькі Наталлі Арсенневай. І не толькі сваё адчуванне выслвовіць яна, згадваючы: «Не, буду зноў пяяць і спадзявацца свята Уваскрасення!»

...Лірычныя медытацыі, пафасныя вершы, роздум, пейзажныя і пейзажна-філасофскія замалёўкі, паэмы, пераклады... Плён трывалы. Пакуль што ён вядомы не так шырока. Таму часам і захопленае «Ах!», і знішчальна-абыякавае «Ну і што?» — гаворацца больш apriori. Прачытанне, асэнсаванне творчасці Наталлі Арсенневай наперадзе. І як бы кпліва і пагардліва паэтка ні ґідзілася «ройнашумлівага веча» крытыкаў, яны — чытачы. А чытачы — калі не народ, дык маса, колькасць. Супольнасць, так бы мовіць. І ствараючы нешта, паэт робіць усе гэтыя «сонцы», «усмешкі», «слёзы» фактам мастацкага, культуровага ўсведамлення.

Якое месца зойме Наталля Арсеннева на беларускім паэтычным Парнасе — вызначыць час. Галоўнае — плён яе таленту прыйшоў да нас. Ну, а дзверы Муз адчынены: Apertae Musarum Januae.

*Ала Сямёнава*

## Пад сінім небам

Ад злых, няветлых песняў гора,
ад змораў шэрае зямлі,
у неба сіню, ў неба мора
ты зрок прысталы падымі.
У сінім небе няма распачы
глухой, што гасіць паволі ўсё,
пад сінім небам усё іначай —
здаецца светлым, як сны, жыццё,
такім нязнаным, дзіўным, узлётным,
жыццём-натхненнем, без слёз, турбот.
У сінях неба несмяротных
бясконцым святам сплывае год.
Дык гэт, у неба, у край без сценяў,
ад зла, нязбыўнага ў жыцці,
на белых крылах летуцення,
Пясняр,
па слова-чар ляці!

# Летуценні

Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,
Дзе такі там хорам важна збудаваны,
Што мне замянілі б хату і бярозкі,
Хату і бярозкі беларускай вёскі?

*Я. Купала*

Часам, як толькі заплюшчу я вочы,
бачу я край той, дзе мора плюскоча,
бачу я хварбы паўдня.

Бачу я мора духмянае кветак,
белыя дрэвы, прыгожа ўсё гэтак
у ласках гарачага дня.

Бачу нябёсныя сінія далі,
ўзоры, што зорныя ночы саткалі
з кроз, успамінаў, надзей...

Гэта — краіна маіх нарадзінаў,
тая, што сніцца мне ночнай часінай,
праўда, радзей а радзей.

Толькі чаму ж маё сэрца не йрвецца
ў тую краіну, чаму яно б'ецца
ціха, спакойна зусім?

Мусіць, чужыя паўдзённыя чары —
новы абраз — гэны, колішні, стары,
выціснуў ў сэрцы маім.

Нашага кволага сіняга неба,
нашых палосак няспелага хлеба
сяння адных я хачу.

Сум нашых срэбрам раззораных ночаў,
рэчкі, што ў лозах зялёных плюскочуць,—
толькі яны уваччу.

Ці ж мне заменіць блакітнае мора,
ці ж мне заменяць няўсяжныя горы,
зораў паўдня калассё,—

нашае цьмянае сонца ціхое,
любае думкам і сэрцу ўвясною,
любае мне над усё?

Не, бо ля светлага сіняга мора
вечна аб радасці хвалі гавораць,
там ад яе не ўцячы,

бо там без працы, а родзяць зярняты,
бо там чужое нам, вечнае свята,
тамака сэрца маўчыць.

Тут жа ж, у нас, па гайкох, пералесках
пасля зімы зацвітаюць пралескі,
сцюжу змяняе вясна.

Тут пасля гора жыцця шлях святлее,
тут пасля слёз расцвітаюць надзеі,
тут і у сэрцы вясна!

*1920*

# Восень

Хай жаўцее, сціхае сад з кажнай гадзінай,
сонца косы гарачыя ўсюды не сее,
хай гарыць, як агонь, ліст чырвонай асіны,
хай апошнія кветкі у садзе жаўцеюць,—
будзем чакаць вясны!

Хай паўзуць над зямлёю калматыя хмары,
хай цямнее рака, хай жыццё замірае,
не агорнуць нас восені горкія мары,
кажны з нас яшчэ светлае шчасце пазнае,—
будзем чакаць вясны!

Хай у душах надзея на долю канае,
зло мінецца, бы летнім дзяньком навальніца,
прыйдзе час — сонца ў сініх нябёсах заззяе,
закрасуе вясновай красою зямліца,—
будзем чакаць вясны!

*Вільня, 1920*

* * *

Светлы дзень дагараець над сумнай зямлёю...
Ліпаў лісцейка хварбай гарыць залатою,
сад пажоўклы цямнее, маўчыць.

Каля яблынак сцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Я хачу на часінку забыцца аб горы
і глядзець, як у рожавым захаду моры
сонца косы бярэцца тапіць.

Я памерці хачу вось такою парою,
хваляй сонца залітая ўся залатою,
больш каб слова не чуць: «Пацярпі!»

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Я хачу ў гэты момант пазнаць сваю долю,
[redacted] хачу зведаць шчасце, хачу [redacted] на волю,
ў далі родных, шырокіх палёў!

Я хачу, я хачу... Ды няма ў мяне сілы,
каб не думаць аб тым непрыхільным, нямілым,
сумным часе апошніх гадоў!

Аджываюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

Сад маўчыць... Не пяець, як раней, як вясною,
аб тым шчасці, жыло што калісьці са мною,
сад маўклівы і цёмны стаіць.

Каля яблынак сцені кладуцца густыя,
пацямнелі ігрушы й кляны маладыя,
зараз ясны заход дагарыць.

Засынаюць нячутна жаданні
ў гэты час, час маўклівы змяркання.

*1920*

## Крыніца

За ніўямі, балатамі,
за хваёвымі барамі
ёсць празрыстая крыніца.
Ўсе атруты, ўсе пакуты
з сэрца людскага, бы путы,
зніме дзіўная вадзіца.
Лечыць цела, што збалела,
і душу, калі змарнела,
веру, моц ліе у грудзі.
Вось гадамі, з калітамі
да яе й брыдуць лагамі
горам гнобленыя людзі.
Толькі ж горкая дарога
да яе... Людскім нябогам,
гэтым — смеласці ды сілы
не дастала... З паўдарогі
іншых пушчы і разлогі
завярнулі... Тых вунь збілі
з ног ці гора, ці турботы,
ці мо слёзы адзіноты.
Зноў жа гэныя згубілі
веру ў долю, ў свае сілы,
ў сілу дзіўнае крыніцы,—
а без веры — стой дзень цэлы,
не, не дасць здароўя целу
жыццядайная вадзіца.
Ды нялёгка і далёка
нават з вераю глыбокай
дашукацца тэй паляны,
дзе зялёнаю лагчынай
мкне удалеч ручаіна,
гоіць сэрца, гоіць раны
над вадою над жывою,
дзе ківаюць галавою
сіняватыя вярбіны,
дзе на словы людскай мовы,
свежы, сонечны, бы новы,
грае бор на ўсе галіны!
Тут, у цішы, ўбогі, хворы,

пазабыўшы крыўды й гора,
неўзабаве схамянецца.
Сілы — дасць яму крыніца,
веру — сонца, што іскрыцца,
смеласць — неба, што смяецца.
Дзень спяе пра шчасце з воляй,
ноч спаўе ціхой патоляй,
замірыць з жыццём нямілым...
Гляне ў неба — й зноў паўстане
на няроўнае змаганне
верны сын зямелькі шчырай!

*1921*

## Калі людзі пакрыўдзяць цябе

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
калі хочацца плакаць, маліцца,—
ты ідзі вузкай сцежкай у лес,
там так лёгка на крыўды забыцца!
Быццам прыйдзеш ты ў хорам дзіўны,
дзе няма ані слёз, ні маны,
дзе пачуеш у шэптах лісця:
«Ты даруй неразумным, як я...»
І адыдзе туга, шугане
ў вышыню, бы ўстрывожаны рой.
Зразумееш, што ўсё праміне
у жыцці, нават гора з бядой...

*Вільня, 1921*

## Калі ноч запануе

Любяць людзі прыгожыя песні,
любяць сумныя гукі жалейкі,
як пагодныя дні напрадвесні,
як раздолле, як спеў салавейкі.

Любяць казкі аб дзеях мінулых,
аб жыцці сваіх продкаў свабодных,
аб гушчарных бароў шумах-гулах,
аб прадоннасці рэк мнагаводных.

Любяць песні аб славе, аб долі,
аб асілках вялікіх, магутных,
аб братох, што каналі ў няволі,
аб часінах старонкі пакутных.

Не было запраўды мо нічога,
мо і песні і казкі мінучы,—
чуе сэрца ў іх гукі былога,
а душа уздыхае балюча.

Тыя ўздыхі мо ветрык падхопіць,
панясець і развеець у полі...
А калі ён сканае паволі,
калі ў хмарах бліск сонца утопіць

і туман папаўзе над лясамі,
над асінаў сям'ёй палахлівай,
над зялёнай няспелаю нівай
дарагімі, маўляў, паясамі,

калі ноч запануе усюды,
калі выпаўзуць ночныя чары,
духі-сцені агорнуць абшары,
сны сплятуцца, сны-мары і цуды,

калі смутныя ночныя гукі
паліюцца з-за хваляў туману
на глухую лясную паляну
і замрэ ўсё ад дзіўнае мукі,

